16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

10 • 2018
кастрычнік

Віншую, калега, вы вынайшлі вечны рухавік...

Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

N.B. «Нота бенэ»

Звярні ўвагу!




Нічога страшнага: вельмі часта сустракаецца сіняк і такой формы…

Алег ПАПОЎ х 2.

# І ТАК ДОБРА!

*Фота-фельетон*

Дзверы ў актавую залу адчыніліся. І адразу ж унутр рынуліся людзі. Не прайшло і дзесяці хвілін, як усе месцы былі занятыя. Больш таго, народ тоўкся ў праходах, ва ўсіх закутках памяшкання.

Загучала музыка, і неўзабаве на сцэне з'явіўся хударлявы невысокі бландзін. Пачакаўшы хвіліну, пакуль сціхнуць апладысменты і крыкі, ён гучна прамовіў:

– Прывітанне, паважаныя! Вельмі шчаслівы вас усіх тут бачыць. Мяне завуць Ігнат Абыякін, і я знакаміты майстра на ўсе рукі!

Грымнулі воплескі. Мужчына заўсміхаўся, памахаў рукамі і прадоўжыў:

– Я ўжо некалькі гадоў запар катаюся з выступленнямі не толькі па нашай краіне, але і па замежжы. Праводжу майстар-класы, якія назваў «І так добра», – Ігнат пачаў хадзіць з аднаго боку сцэны ў другі. – Яны накіраваны на тое, каб гледачы пачалі цаніць свой час, развівалі фантазію. Ведаеце, я заўважыў, што ў кожным, хто прыходзіць на мае выступленні, схаваны ўнутраны геній.

З залы пачуліся гукі адабрэння. Абыякін прамовіў:

– Ніколі не разумеў, навошта людзі затрачваюць на рамонт столькі грошай і часу. Можна ж уключыць уяўленне і скарыстацца падручнымі сродкамі. Зараз я прадэманструю вам маю калекцыю назіранняў, якія пацвярджаюць гэтую думку, – прамоўца адышоў у бок сцэны, каб усім прысутным быў добра бачны праекцыйны экран.

На ім з'явілася першае фота. У зале павісла цішыня.

– Пачнём з простага. Напрыклад, так выглядала выстава, якую мне пашчасціла неяк убачыць. Вы толькі ўявіце, якая карысць: зарадка для шыі, трэніроўка зроку! Безумоўна, для такіх жа мэт быў размешчаны і гэты банер (фота 1).

У зале пачалі ціхенька абмяркоўваць убачанае. Ігнат Абыякін заўважыў:


1

– Калі ў каго-небудзь узнікнуць пытанні ці прапановы, то, калі ласка, можаце ўставаць і агучваць іх.

Адразу ж у зале ўзняўся мужчына:

– Добры дзень, мяне завуць Міхаіл. Працую электрыкам, можа, ёсць якія ідэі, што адносяцца да маёй спецыялізацыі?

– Якраз пра гэта і хацеў расказаць. Глядзіце, як крэатыўна справіўся з задачай ізаляцыі ваш калега (фота 2). Якая эканомія, а калі ўлічваць, што пластык струхнее праз гадоў сто, то такое выйсце са становішча – вышыня прафесіяналізму! А цяпер прыгледзьцеся да чацвёртага фотаздымка. Яго падараваў мне адзін з гледачоў, пасля таго, як пабываў на маім майстар-класе. Вось гэта зрабіў чалавек, які выкруціцца з любога цяжкага становішча. Бярыце прыклад, паважаныя!

– А я займаюся рамонтам памяшканняў, што мне параіце? – прагучаў голас яшчэ аднаго мужчыны.


2

Ігнат заўсміхаўся:

– О, вашая спецыялізацыя патрабуе шырокага кругагляду і вялікай фантазіі. Тым больш, што вам трэба ўлічваць розныя нюансы. Напрыклад, мой знаёмы вырашыў не марнаваць час, а прымацаваць плінтус менавіта так (фота 3). Навошта выразаць вуглы, калі ўсё роўна на гэтым месцы будзе стаяць канапа. А вось яшчэ (фота 4). Не падабаецца вам, напрыклад, пейзаж за акном, ці вецер свішча праз раму, дык увогуле закладзіце яго цэглай. А потым наклейце плакат з морам і пляжам.

– Я займаюся праектаваннем будынкаў і ўсяго, што з гэтым звязана. Часта страчваю натхненне. Што рабіць? – гучна прамовіла жанчына.

– Цудоўна вас разумею. Раю думаць пра іншых людзей. Вось такі туалет размяшчаецца ў гомельскім Палацы атлетыкі «Дынама». Тут ваш калега паклапаціўся пра


3



5


4


6


7


8

людзей невялікага росту, каб яны маглі без праблем знайсці сабе месца. А шосты фотаздымак з Расіі. Так выйшлі са становішча праекціроўшчыкі і будаўнікі, калі даведаліся, што драўляную хату знішчаць нельга – помнік архітэктуры.

– А ёсць прыклады для людзей, якія не маюць тэхнічнай адукацыі? – нехта задаў пытанне з галёркі.

– Трэба падумаць, – Абыякін памаўчаў секунд дзесяць і знайшоўся. – Глядзіце, які просты і эканамічны лайфхак я сустрэў у адным офісе (фота 5). Не было мыла, каб заліць у спецыяльную тару, дык нейкі вынаходнік прыдумаў дзейсны аналаг. Працаваў ён нават лепш за арыгінал, можаце мне паверыць! А тут (фота 6) хтосьці можа сказаць, што за рулём гультай. А я запэўніваю вас, што гэта чалавек, які ўмее цаніць свой час. Усё роўна зіма, снег зноў ляжа гурбой на аўтамабіль, дык навошта трыццаць хвілін скакаць вакол яго і чысціць?

Народ у зале зноў загудзеў, загучалі авацыі.

– Цішэй, у мяне яшчэ засталося некалькі фотаздымкаў. Мяркую, тут не трэба нічога тлумачыць. Гэта вам для натхнення (фота 7, 8, 9, 10).







Прамоўца з захапленнем назіраў за выразам твараў гледачоў, як яны фатаграфуюць яго прыклады, нешта запісваюць і перагаворваюцца між сабой. Яшчэ дзве сотні людзей праніклася яго ідэямі. Майстроў, якія працуюць па прынцыпе «і так добра», стане больш. А што яшчэ патрэбна такім вось абыякіным?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Анастасія СКАРКО і Андрэй Сідарэйка.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Руслан БОГУШ.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Маршчыны і звіліны

І ў жанчын кожны год,
І ў мужчын
Шмат з'яўляецца
Новых маршчын.
Ды шкада вельмі,
Людцы мае:
Звілін новых
Узрост не дае!



## Дружба і служба

Кажуць часам:
Дружба – дружбай,
Служба ж, адпаведна, –
Службай.
Ды бывае,
Што без дружбы
Мець не будзеш
Добрай службы.



## Сябры і зайздроснікі



Найлепшага
Сабе жадаем самі.
Ды адназначна,
Што ні гавары:
Хай лепш зайздроснікі
Становяцца сябрамі,
А не зайздроснікамі
Робяцца сябры!

## Цёплыя словы

Вострых лепей
Пазбягаць вуглоў,
Толькі ж і маўчаць заўсёды
Цяжка.
Я скажу вам
Многа цёплых слоў:
Коўдра, печ,
Запазуха і пляшка.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## Выключэнне



– Вядома ісціна
Такая:
«Нішто бясследна
Не знікае...»
– Я згодна,
Толькі, мой харошы,
Адно ёсць выключэнне –
Грошы!..

## Справядлівая дзяльба



– Можам быць
Дакладнымі на дзіва, –
Раз заўважыў
Паляўнічы Федзя. –
Дзеліцца
Найболей справядліва
Шкура
Незабітага мядзведзя.

## Цёткі-камарыхі

Як толькі
Лета настае,
Камар
Спакою не дае.

Хоць сам камар –
Ён дзядзька ціхі,
Кусаюць
Цёткі-камарыхі.

### Рыбак і прырода



– Як добра
З вудай пасядзець
І на прыроду
Паглядзець...
– Павер:
Калі ўвесь дзень рыбачыш,
То свету белага
Не бачыш!

### Дрэннае насенне




Выклікае
Толькі раздражненне
Якасць
Агароднага насення –
Што б ні сеяў,
Але кожны год
Вырасце
То пырнік, то асот!

### Катэгорыя навін

Часам згадваецца
Ісціна адна.
У навін
Такая катэгорыя:
Толькі свежаю
Бывае навіна,
Састарэла –
Гэта ўжо гісторыя.

### Аўтарытэт

Аматары
Парадаксальных фраз
Ацэняць гэту думку,
Несумненна:
Аўтарытэт
Ствараем доўгі час,
Калі ж яго губляем –
Дык імгненна.

### Прамы шлях



Шлях прамы
Шукаеш ты дарма –
Непрыемны
Будзеш мець сюрпрыз:
У жыцці
Прамых шляхоў няма,
Акрамя, хіба,
Падзення ўніз...

### Пытацца трэба ўмець



Праверце,
Калі ёсць жаданне,
А я ж упэўніўся
Не раз:
Паставіць правільна
Пытанне
Цяжэй,
Чым адшукаць адказ.

### Б'юць і ляжачых

Казала калісьці
Бабуля мая:
– Ляжачага
Сорамна біць.
Але я лічу:
Трэба біць гультая,
Нягледзячы,
Што ён ляжыць!

### Ворагі і поспехі




Сяброў надзейных
Не прыдбаеш,
Пакуль не зведаеш
Бяды.
А калі ворагаў
Не маеш –
То поспехаў
Не знаў тады.

### З грашыма лепей



Ляцяць гады,
Плывуць стагоддзі,
Мяняе час
І нас саміх.
Але ва ўсе вякі
Выходзіць:
З грашыма лепей,
Чым без іх.




Аляксандр ПЯТРОЎ.






Шарж Міколы ГІРГЕЛЯ.

# На навакольны свет з усмешкай

*Валянцін Блакіт, сапраўднае імя Валянцін Уладзіміравіч Болтач (1938–2007) быў галоўным рэдактарам «Вожыка» з 1987 па 2000 год. А да гэтага паспеў папрацаваць у газетах «Чырвоны сцяг», «За Радзіму»,«Савецкая вёска», «Ленинское знамя», «Гродненская правда».*

*Усё жыццё ён імкнуўся глядзець на навакольны свет з усмешкай, заўважаць светлыя радасныя моманты, якія потым апісваў у сваіх творах. Стаў аўтарам кніг і зборнікаў «Вынаходнік», «Час прылёту журавоў», «Адчай», «Чуйная цішыня», «Шануй імя сваё», «Усмешка фартуны» і інш. Прапануўваем вам прачытаць урывак з яго кнігі «Вяселле ў Беражках»*

Яна юная, светлая, прыгожая, у лёгкай летняй квяцістай міні-сукенцы ішла па праспекце, размахваючы сумачкай. Усім кідалася ў вочы яе радасць, вялікая, чыстая. Дзяўчына, здавалася, знарок стрымлівала свае пачуцці, аднак было такое ўражанне, што яны непадуладныя ёй. Пешаходы міжволі паварочвалі галовы, і на іх тварах таксама раптам расцвіталі цёплыя ўсмешкі.

Міхась як убачыў, так і аслупянеў, адразу ж адчуўшы нейкі неспакой.

Канечне, ён пайшоў за гэтым цудам...

Каля ГУМа, дзе на тратуары больш народу, «незнарок» штурхануў дзяўчыну, красамоўна і доўга пачаў прасіць прабачэння.

– Ой, глупства! Я нават і не заўважыла, – даверліва глянула яна, і Міхась адчуў: у яго жыцці павінна адбыцца нешта важнае.

Ён гаварыў і гаварыў, каб уцягнуць дзяўчыну ў размову, і аж сам дзівіўся, адкуль у яго бярэцца красамоўства.

– Б'юся аб заклад: у вас сёння адбылося нешта такое, што толькі раз бывае ў жыцці. Ці не так?

– Ой, а як вы здагадаліся? – шчыра здзівілася яна.

– А хочаце, адгадаю што? – дурасліва працягваў ён. – Я індыйскі маг, які чытае думкі на адлегласці.

– Чытаеце думкі на адлегласці? – засмяялася дзяўчына. – Тады паспрабуйце! Нізашто не адгадаеце!

– Гля-я-дзі-і-це на мя-я-не-е... Па-а-чынаю-ю сеанс белай магіі!

– Ха-ха-ха-ха... – глянула яна, прыпыніўшыся, і цяжка было зразумець, чаго больш у яе шэрых вачах – здзіўлення ці шчырай дзіцячай гарэзы.

– Вы-ы... па... латарэйным білеце... выйгралі «Масквіч». О!

– Ха-ха-ха!.. Не ўгадалі.

– Тады-ы... вы-ы-ы, – з той жа гуллівай урачыстасцю абы-што гаварыў Міхась, – угадалі... усе... шэсць... лічбаў «Спортлато»...

– Ха-ха-ха... – смяялася дзяўчына. – Я не гуляю ў «Спортлато». Зноў не ўгадалі!

– Тады-ы... вам... адзін рыцар журботнага вобраза прапанаваў руку і сэрца...

– Не-е... – трохі збянтэжылася яна і амаль сур'ёзна, нібы апраўдваючыся перад ім, сказала: – Я толькі што здала апошні экзамен. Так што перад вамі свежавыпечаны малады спецыяліст.

– І кім вы сталі? – пацікавіўся ён, забыўшыся павіншаваць. – Думаю, што надзвычай рэдкая і арыгінальная спецыяльнасць.

– Ды не! Медыцынская сястра, – прыязна глянула дзяўчына. – Так што, калі захварэеце, прыходзьце



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

лячыцца, — і ў яе вачанятах зноў заскакалі гарэзлівыя чорцікі.

— Вось такія дактары вымуць душу без пары, — весела працытаваў ён радкі з верша і тут жа схамянуўся: а раптам пакрыўдзіцца?

Дзяўчына ж засмяялася яшчэ гарэзлівей:

— Во-во! Якраз такі лекар... Ага! Спалохаліся!

— І ніколечкі!

— Не, спалохаліся...

Ім было проста, весела ад гэтай легкадумнай дураслівай гамонкі. Яны ішлі, не заўважаючы нічога і нікога на свеце.

Стаў накрапваць дожджык. Дзяўчына з трывогаю глянула на неба— вісела толькі маленькая хмарка. Міхасю хацелася рассмяшыць яе, надта ж хораша яна смяялася, так чыста, як людзі з добрым, шчырым характарам.

Па штрасэ мы гулялі,
А з неба васэр ішоў...

Узнёсла-парадыйным тонам прадэкламаваў ён.

Дзяўчына смяялася да слёз, потым ускінула здзіўлены позірк:

— Гэта вы сам?

— Не-е, то шэдэўр класіка літаратуры нашай першай гвардзейска-рыцарскай групы. Дарэчы, напісаны з выпадку «хваста» па нямецкай мове.

— Вы студэнт? — ні то здзівілася, ні то абрадавалася дзяўчына і глянула так, што захапіла дыханне.

— Пакуль што... Але перад вамі будучы знішчальнік малых і вялікіх рэчак, закляты вораг фаўны і флоры, словам, інжынер-меліяратар... праз год пры ўмове паспяховай здачы экзаменаў, — і скорагаворкай запытаўся: — Дарэчы, як вас завуць, таварыш малады спецыяліст, прадстаўнік самай гуманнай прафесіі?

— Іра... — шчыра сказала дзяўчына і аж прыпынілася ад здзіўлення, што яны незнаёмыя.

— А мяне клічуць Міхась...

*1981 г.*

## Усмешкі пра рэкламу










Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 3.

# Чубатка-здрадніца

*Іранеска*

Пасля ранішняй дойкі Вольга спяшалася дадому. Назаўтра дамовілася капаць бульбу, суседзяў запрасіла на дапамогу. Трэба пачастунак для памагатых падрыхтаваць. Па дарозе забегла ў краму, купіла каўбасы, селядца, бутэльку гарэлкі.

У хаце было ціха. Муж Валодзя спаў пасля начнога дзяжурства на ферме. Вользе гэта якраз на руку, бо ён быў вельмі ахвочы да выпіўкі. Яна замітусілася, шукаючы месца, дзе б гэта схаваць бутэльку ад мужавых вачэй. Неўзабаве падалася ў агарод. Позірк жанчыны ўпаў на старую яблыню. Учора быў моцны вецер, зламаў галіну, якая цяпер ляжала на зямлі. Пад ёй Вольга і вырашыла зрабіць схованку. Сюды Валодзя не зазірне. Яна хуценька прынесла рыдлёўку, выкапала ямку, паклала туды гарэлку, старанна засыпала зямлёй, а зверху яшчэ прытрусіла саломай. Задаволеная, вярнулася ў хату. Адпачыла, парабіла хатнія справы і зноў пабегла на ферму.

Недзе праз гадзіну Вользіна суседка, якая корпалася ў агародзе, са здзіўленнем назірала, як Валодзя ў расхрыстанай сарочцы бег да суседа. Праз хвіліну спяшаўся назад, спатыкаючыся на кожным кроку, а за ім следам імчаў сябар. Валодзя, азіраючыся, падганяў яго: «Хутчэй! Хутчэй!»

Недзе гадзіны праз дзве вярнулася Вольга. Зайшла ў хату і аслупянела. За сталом, на якім стаяла пустая бутэлька, сядзелі два сябрукі, расчырванелыя, са шчаслівымі ўсмешкамі на тварах. Яны абдымалі, цалавалі яе любімую нясушку Чубатку і прыгаворвалі: «Выратавальніца наша! Дзякуй табе!»

А здарылася вось што. Прачнуўшыся, Валодзя пайшоў у агарод, каб нарваць пер’я цыбулі для салаты. І тут звярнуў увагу на Чубатку, якая разграбала зямлю пад яблыняй. Падышоў бліжэй і ўбачыў у ямцы бутэльку, ухапіў яе дрыготкімі рукамі і пабег у хату. Дастаў з паліцы слоік агуркоў, нарэзаў хлеба, сала і накіраваўся да сябра, каб падзяліцца раптоўным «скарбам».

— Ах, вы нягоднікі! — абурылася Вольга. — Не чапайце бедную курыцу! Чаго да яе прычапіліся? Зараз вам як усыплю, дык гэта гарэлачка бокам выйдзе! Што ж я заўтра памагатым на стол пастаўлю? Будзеце ўдвух бульбу капаць!

Жанчына схапіла качаргу і падступіла да сябрукоў. Тых як ветрам з хаты здзьмула. А перапуджаная курыца забілася ў куток каля печы і схавала галаву пад крыло.

— Эх, Чубатка, што ж ты нарабіла? — звярнулася Вольга да яе. — Я ж цябе пшанічкай карміла, а ты здрадніцай аказалася!

**Галіна ГУЗЯНКОВА.**






Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.




Павел ШЫЧКО.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.



Аляксандр ШМІДТ.



Алег КАРПОВІЧ.







Алег ПАПОЎ х 2.

# Як надакучлівага брыгадзіра правучылі…

*Гісторыйка*



Раней у кожнай вёсцы моладзі было, як пчол у вуллі. А там, дзе збіраліся хлопцы і дзяўчаты, заўсёды дапазна гучалі звонкія песні, ладзіліся танцы і праходзілі вясёлыя гульні. Такі ўзрост! Вось толькі каму з маладых спадабаецца, калі хтосьці са старэйшых суне свой нос у іх справы?

А брыгадзір Ціхан Аброцька быў якраз такім чалавекам, пра якіх кажуць, што ў іх штопар у адным месцы. Ён не прапускаў ніводнай вечарыны. Не прыгнечаны хатняй гаспадаркай, мог сабе дазволіць у мясцовым клубе дапазна рэзацца ў дурня, а калі яго не бралі ў гульню, надакучваў сваімі парадамі. Ціхан устаўляў свае «пяць капеек» у чужую размову ці палову вечара вучыў кагосьці жыццю. А іншы раз пасля танцаў спрабаваў на сваёй фурманцы падвезці дадому якую-небудзь вясковую прыгажуню. Не кожная яму магла адмовіць, усё ж такі вясковае начальства! У свае пяцьдзясят гадоў ён лічыў сябе мужчынам у самым саку.

Неяк вечарам фурманка Аброцькі мазоліла вочы каля плота мясцовага клуба. Моладзь весяліліся, а брыгадзір як заўсёды псаваў ім танцы сваімі надакучлівымі каментарыямі. Таму некалькі хлопцаў вырашылі яго правучыць. Ціхенька выйшлі з клуба, распраглі брыгадзірскага каня. Калёсы фурманкі пакінулі на адным баку плота, а жывёлу перавялі на другі. І так праз плот зноў запрэглі.

Калі ўжо добра сцямнела, моладзь пачала разыходзіцца. Старанна выглядаючы сабе спадарожніцу, выйшаў і Ціхан Аброцька. Яго ўвагу прыцягнула вясёлая і гаманкая кампанія. Кінуў позірк на тое, што іх так цешыла і рассмяшыла, і ледзь не абамлеў. Хутка падбег да сваёй фурманкі і, у цемнаце не разабраўшыся, здзіўлена запытаўся ў каня:

– Як ты там апынуўся?

Конік мірна драмаў, не звяртаючы ўвагі ні на брыгадзіра, ні на шумны рогат хлопцаў і дзяўчат. Злосны, як чорт, брыгадзір схапіў лейцы, пачаў біць жывёлу і крычаць:

– Ну, шэльма, як сюды залез, так і вылазь!

Конь падхапіўся, моцна тузануў плот, ажно пайшоў трэск, але так і не змог выбрацца са свайго палону.

Вуліца апусцела, дзесьці з другога канца вёскі даносілася ціхая песня. А Ціхан яшчэ доўга распрагаў і гучна лаяў свайго каня.

Пасля гэтага кур’ёзу брыгадзір надоўга забыўся на дарогу ў клуб. А калі і з’яўляўся там, то быў без фурманкі і больш не лез са сваімі парадамі да моладзі.

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*

# ЛЁС ЖУРНАЛІСТА

*(амаль невыдуманая гісторыя)*

У вёску мяне занясло
ў сенажаць:
Даў камандзіроўку часопіс
адзін –
Жыццё сялян, як ёсць,
апісаць.
Ды не папярэдзіў: няма там...
мужчын!

Сышоў я з аўтобуса...
Гэтак і сеў:
Сто маладзіц прыйшлі
сустракаць!
Усе – нібы казка!
Прыгожыя ўсе!
Адрэзалі шлях мне назад
уцякаць...

І я не шкадую, што з вескі
не ўцёк,
Бо стаў нават нібы
ў гарэме султан:
Днямі пісаў (абяцаў!)
«пра жыццё»,
Ночы праводзіў –
то тут, то там...

...Рэдактар у спіс на прэмію ўнёс.
А я на стол – з заяваю ліст:
Назад шукаць паеду свой лёс,
Каб іншы яго не знайшоў
«журналіст»!

**Аляксандр ЗОТАЎ,**
*г. Мінск.*

## Кратова прапанова

Горка плачуць мышы
Ля цагельнай нішы.
Плачуць мышы з году ў год:
Не дае праходу кот.
– Падкажы, што нам рабіць,
Крот, сусед наш мілы,
Як ката нам абдурыць,
Дзе набрацца сілы?..
– Выйсце ёсць! –
Усклікнуў крот.
Памаўчаў з хвіліну
І разявіў чорны рот
З вельмі важнай мінай:
– Каб хадзіць вам
Ва ўвесь рост
Не баяцца ўночы,
Раю так: кату на хвост
Прычапіць званочак.
І тады той кот – Васёк –
Будзе чуцен вам здалёк...
Мышка тупнула нагой:
– Што ты дурасць лепіш!
Можа, сам званочак той
Ты кату прычэпіш?!
Крот галоўкай пакруціў
Ды як зарагоча!
Кажа:
– Гэтак бы зрабіў,
Але ж я без вочак...



**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.

# Хто свіснуў першым?

*Быль*

Пра футбол, здаецца, мы ведаем усё. Калі сцісла, то па полі за мячыкам гойсаюць 22 хлапцы. Палова мае адзін колер формы, палова – другі. А вароты, у якія трэба ўкаціць той самы мячык, ахоўваюць два варатары. Сочаць за гульнёй арбітры.

Вось пра апошніх і пойдзе гаворка. Ці ведаеце вы, хто з іх дадумаўся прымяніць свісток? Вядома, што першыя суддзі з'явіліся на футбольным полі параўнальна нядаўна, калі дакладней, то ў 1878 годзе ў Англіі. Тады наогул лічылася, што па ўласнай ініцыятыве суддзя ў гульню ўмешвацца не павінен. Абавязкамі «назіральнікаў» было проста сачыць за часам, выдаляць з поля ці наадварот прызначаць гульцоў (заўважце, гэта рабілі не трэнеры), а таксама вырашаць спрэчкі сярод удзельнікаў каманд. Як кажуць футбольныя каментатары: лепшы суддзя – гэта той, хто кіруе матчам, але ніхто не заўважае ягоную прысутнасць на полі.



Анастасія СКАРКО.

Дык вось, да 1878 года футбольныя суддзі карысталіся для кіравання гульнёй толькі ўласным голасам, падавалі знакі, нават звінелі ў званок, каб звярнуць на сябе ўвагу і абвясціць рашэнне. Ды і сачылі за выкананнем правілаў не прафесіяналы, а простыя аматары: клеркі, лекары ці нават... пісьменнікі. Напрыклад, вядома, што футбольным арбітрам у свой час быў сам Артур Конан Дойл!

Але ўсё змянілася ў адзін дзень. На адным з матчаў у Лондане судзіць гульню даручылі звычайнаму лонданскаму паліцэйскаму. Раптам на полі ўзнікла неспадзяваная бойка, і той, не раздумваючы, проста дзьмухнуў у свой свісток! Гульцы адразу ж як па камандзе спынілі калатнечу.

З тых часоў арбітры карыстаюцца свістком. Як паліцэйскія.

**Аляксандр ЗОТАЎ,**
*г. Мінск.*






Мікола ГІРГЕЛЬ.

## Не наракай, а розум май

Што людзям грошай не хапае,
Вядома ўсім спакон вякоў.
Праблема, як зямля, старая
Штодня хвалюе бедакоў.

Таксама ёсць дакор на памяць,
Што здраджвае яна падчас
І можа з лёгкасцю «падставіць»
У самы нечаканы час.

Але ж ніхто не чуў ніколі,
Каб хтосьці ганіў розум свой.
Маўляў, не меў шчаслівай долі,
Бо быў не ў дружбе з галавой.

Сябе амаль што кожны лічыць
Мудрэйшым за цалюткі свет
І здольным розуму пазычыць:
Мне — хопіць, ты вазьмі, сусед...

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Матывацыя

— Аднясі, Іван, вядро,
Вельмі цяжкае яно.
— Можа, я б і дапамог —
Пад сабой не чую ног.
Я ж не вол, тым больш,
не конь,
І мяне ты не супонь.
— Ўчора выпіў ты «нуль пяць»,
Сёння што з цябе мне ўзяць?
Вось, лыкні вады вядро,
Каб табе дапамагло.
— Што за дзіўная размова?
Піць з вядра. Я што, карова?!
— А каб несла я дадому
Паўвядзерца... самагону?
Асушыў бы ты, бядак?
— Не пытанне, Света. Так!
Гэтай думкай так натхніўся,
Тут жа за вядро схапіўся.

Такая сітуацыя:
«М» — значыць «матывацыя».

**Святлана ГАМШЭЙ,**
*г. Пружаны.*




Алег ГУЦОЛ.







Алег ПАПОЎ х 2.

## Уладкаванне двара

Чакалі жыхары даўно
Двара уладкавання.
Пісалі пісьмы (й не адно!)
У домакіраванне.

А там заявак – сотні тры
(І колькі скаргаў чуеш!).
Ну як у час усе двары
Ты разам уладкуеш?

Рукой махнулі жыхары:
Няма ўжо сіл змагацца!
Аж гляньце – едуць трактары
І пачынаюць працу.

Гудуць машыны, пыл слупом –
Усё перакапалі.
Стаіць у гэтым пыле дом,
Машыны ж дзесь прапалі.

І засталіся у двары
Дзе купіна, дзе яма.
Такім вось бачаць жыхары
Свой двор «уладкаваным».

Паставіў птушачку прараб
Спакойна ў справаздачу.
Работы гэтакай маштаб
Не смеху варты – плачу.

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




## Хлопец ці дзяўчына?

*Міні-фельетон*

– Пашанцавала гэтым дзяўчатам. Вусны чырвонай памадай намалююць, сукенку з выразам надзенуць, паўсміхаюцца, хвастом пакруцяць, а мужчыны ім у адказ кветкі, падарункі прыносяць і ў рэстараны водзяць, і грошы даюць, і ўсе пажаданні выконваюць. А чаму да хлопцаў так не заляцаюцца? Як было б цудоўна. Нават працу не трэба было б шукаць. Сядзі сабе на канапе і ўяўляй сябе прынцам. А гэтыя прыгажуні табе і піва, і новы ноўтбук для гульняў, і піцу прыносяць, абы толькі на іх увагу звярнулі, падаравалі надзею на светлую будучыню, – разважаў услых 24-гадовы Аляксандр. – Вось каб я нарадзіўся дзяўчынай, то не ведаў бы гора. Хм... А чаму б мне ёй не стаць, прынамсі, у віртуальным свеце?

Гэтая думка так спадабалася хлопцу, што ён вырашыў увасобіць яе ў рэальнасць. Стварыў некалькі старонак на імя дзяўчат у адной з сацыяльных сетак. Нават кожнай з іх прыдумаў свой характар, знешнасць, гісторыю і... праблемы.

Неўзабаве адной з іх напісаў мужчына, які хацеў пазнаёміцца. Аляксандр вырашыў падтрымаць размову. Слова за слова – яны разгаварыліся. Калі хлопец мімаходзь напісаў, што няма сродкаў, а так хочацца чагосьці смачненькага, мужчына прапанаваў перавесці грошы. Маўляў, не дазволю такой прыгажуні галадаць. Так Аляксандр атрымаў свой першы «даход».

– Нічога сабе! Я нават не думаў, што ўсё будзе так проста. Гэта ж як у дзіцяці цукерку адабраць. Вось мужыкі дурні! А чаму б гэтым не скарыстацца?

І хлопец ад імя дзяўчат пачаў сам выбіраць і пісаць «ахвярам». Спачатку фліртаваў, знаходзіў словы, каб выклікаць да сябе давер, а потым выдумваў праблемы: аплаціць камуналку, праезд у грамадскім транспарце, зрабіць аборт, купіць лекі. А некаторым нават прапаноўвалася заплаціць за інтым у будучыні. Тыя рыцары адразу ж адклікаліся, пераводзілі грошы на картку ці папаўнялі баланс тэлефона...

«Бізнес» Аляксандра расквітнеў, але адзін з падманутых кавалераў западозрыў нядобрае і звярнуўся ў міліцыю з заявай аб махлярстве. Адшукаць і затрымаць хлопца было не складана. У ходзе следства высветлілася, што ён падмануў 63 чалавекі, з якіх выцягнуў ажно 26 тысяч долараў.

Суд прыгаварыў хлопца да пяці гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Як вам такое пасапраўднаму мужчынскае пакаранне?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.



Пётр КОЗІЧ.

## Артысты

*Жарт*

Спявалі курачкі ў суседзяў,
А ноты бралі – брат ты мой!
Нібыта ў радаснай бяседзе
Адна цягнула за другой.

Старыя куры басам бралі,
Дыскантам певень памагаў...
Ах, як жа курачкі спявалі!
Ах, як курыны хор спяваў!

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*

**Андрэй СІДАРЭЙКА**



## Кадр на перспектыву

*З натуры*



Гэтая гісторыя адбылася ў адной фірме. Яе заснавальнік Іван Іванавіч неяк прывёў новага чалавека і сказаў дырэктару:

– Рыгор Цімафеевіч, знаёмцеся, Яўген – сын майго таварыша. Мне рэкамендавалі яго як супрацоўніка на перспектыву. Паглядзіце, калі ласка, у якой ролі ён можа спатрэбіцца нашай фірме.

– Зробім, Іван Іванавіч, – адказаў дырэктар, адразу ж выклікаў намесніка і растлумачыў сітуацыю.

Той паслухаў, што можа рабіць хлопец і сходу азадачыў яго абавязкамі. На дзіва новы падначалены справіўся з імі хутка і якасна.

«Ды такімі тэмпамі ён праз месяц мяне «падседзіць». Што тады рабіць? Шукаць новую працу?» – нерваваўся намеснік, калі яго выклікаў дырэктар.

– Ну, як новы супрацоўнік? – запытаўся Рыгор Цімафеевіч.

– Ведаеце, здольнасці ў яго сапраўды ёсць. Перспектыўны хлопец, але пакуль «сыры». Можна прызначыць яго ў які-небудзь іншы аддзел спецыялістам.

– Добрая ідэя, – усміхнуўся шэф і набраў нумар на тэлефоне. – Алё, Алег Анатольевіч, зараз да вас прыйдзе перспектыўны навічок. Прыгледзьцеся да яго, можа, падыдзе вам. Згодны?

– Што за пытанне, Рыгор Цімафеевіч! Знойдзем, што яму даручыць.

Так Яўген апынуўся на новым «фронце» работ. Загадчык аддзела адразу ж даў яму некалькі складаных заданняў. І хлопец справіўся з імі за кароткі тэрмін і прытым якасна.

«Увесь мой аддзел выконвае такія даручэнні за паўдня, а гэты ўнікум – за гадзіну. Калі справа так пойдзе, то праз месяц ён зойме маё месца, а я буду вымушаны шукаць працу ці падпарадкоўвацца яму».

Таму, калі дырэктар выклікаў загадчыка аддзела да сябе, Алег Анатольевіч сказаў:

– Хлопец сапраўды таленавіты, але, на жаль, пакуль мне не падыходзіць. Яму яшчэ трэба шмат чаму навучыцца. Можа, Яўгена пакуль у аддзел кадраў накіраваць? Няхай там паспрабуе свае сілы.

У аддзеле кадраў адбылася такая ж сітуацыя. Пасля чаго хлопца накіравалі ў гардэробную.

«Гэта яны мне замену знайшлі! – падумала жанчына, што працавала там. – Не на тую трапілі».

Калі кіраўнік выклікаў да сябе, тая адказала:

– У такой працы досвед трэба мець: як паліто ўзяць, куды яго павесіць. А тут чалавек не працаваў у гэтай сферы...

Кіраўнік засумаваў. Адмовіць заснавальніку фірмы ён не асмельваўся. Але ўзяць чалавека і паставіць яго абы-куды, з-за чаго мог збіцца ўвесь механізм працы, ён таксама не мог. Таму Рыгор Цімафеевіч узгадаў, што ўчора захварэла прыбіральшчыца, а мыць падлогу трэба. Больш таго, жанчына збіралася звальняцца, бо лічыла свой заробак мізэрным. Шэф прапанаваў новаму кадру наводзіць парадак у пакоях.

І гэта ў Яўгена атрымалася таксама выдатна. Толькі цяпер ніхто не стаў аспрэчваць яго здольнасцей. Шэф з палёгкай выдыхнуў.

– Ведаеце, вы выдатна справіліся з гэтай работай, – сказаў ён хлопцу. – Мы з радасцю возьмем вас прыбіральшчыкам памяшканняў. З такой пасады ў нас пачыналі многія, у тым ліку і я. Яна ў нашай фірме стала першай прыступкай у кар'ернай лесвіцы. Таму віншую, вы прыняты! Заўтра чакаю вас зранку, будзем афармляць дакументы.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*






Анастасія СКАРКО і Андрэй Сідарэйка.



Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.







Джытэт КАЕСТАНА (Інданэзія).



Юрый КАСАБУКІН (Украіна).

## Так пачула

*Жарт*

Грынь неяк рыбу вудзіў ля ракі
І цешыўся – улоў прыспеў багаты.
Ішла з гасцей да вёскі праз масткі
«Пад мухай» глухаватая Агата.

– А, Грынька! Як улоў табе ідзе?
Ці бачыш той вялікі куст ракіты?
Каля яго ляжыць штось у вадзе,
Вялікае і чорнае, нібыта...

– Магчыма, там пакет які ці мех, –
Мужчына пракрычаў у вуха прама.
– Што кажаш? Ну, які табе тут смех?
Напэўна, нешта страшнае схавана!

– Чаго баяцца? Там чародка рыб.
Ідзі, Агата, ты мне замінаеш.
– Ці чулі вы? Які ж у рэчцы грыб?
За неразумную мяне трымаеш?

Не вытрымаў гаворкі гэтай Грынь
І выкрыкнуў у твар ёй, а не ў вуха:
– Ідзі ты... – але ветрыку парыў
Той фразы да канца не даў даслухаць.

Усмешкаю Агата расцвіла,
Нібыта ў агародзе летам макі.
– Разумны самы, Грынька, ты з сяла!
Я і сама падумала, што ракі!

**Тамара БАРАДЗЁНАК,**
*г. п. Ушачы.*



Максім СМАГІН (Расія).

## Пра ўраджай і адчай

У Івана і Ягора
Сёлета трашчыць камора.
Што яны ні пасадзілі –
Усе саджанцы ўрадзілі.
Толькі скончыліся зборы
Агуркоў і памідораў –
Сталі дрэвы асыпацца.
Калі ж чэсна вам прызнацца,
То ўжо недзе, мае братцы,
З тым прыбыткам падзявацца.
Хоць і мараць пра ўраджай,
Ды бярэ ажно адчай.
Можа, дзесьці не хапае,
Можа, хтосьці галадае –
Нават бульбіны няма?
А вось тут – бяры дарма!
Ды няма ані сталоўкі,
Ані пункту нарыхтоўкі,
Нейкай спецыяльнай крамы
На сяле няма таксама.
Застаецца выхад просты –
Кідаць у ямы на кампосты?..

**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*













Руслан БОГУШ х 4.




* * *

Канапаты мой Рыгор
У брылі, як мухамор.
Трэба грошай раздабыць
Ды картуз яму купіць.

* * *

Цяжка травачку касіць,
Калі патаптаная.
Лёгка дзеўчыну зманіць,
Калі закаханая.

* * *

Запанеў у нас Лявон,
Не глядзіць на сала ён,
Бо цяпер да мюслі ласы,
Чыпсаў, колы, ананасаў.

* * *

Стась вакол мяне скакаў,
Рай да шлюбу абяцаў.
А як ажаніўся –
Штось перамяніўся.

Мне б такога гарманіста
Сярод хлопцаў адшукаць,
Каб ён быў не ганарысты,
Умеў шчыльна прытуляць.

* * *

На гулянку ў клуб пайду,
Восем хлопцаў прывяду.
Хай матуля не злуе –
Гэта ж спонсары мае.

* * *

Наша Фрося – камандзірка,
Ёй заўсёды ўсё не так.
Як уключыць «малацілку»,
Перабрэша ўсіх сабак.

* * *

Бацяны мацуюць крылы,
Рыбкі плаваюць на дне...
Падарыў пярсцёнак мілы,
Толькі шкода, што не мне.



* * *

Пакуль танчыла, спявала, –
Расхапалі жаніхоў.
Іх было ў мяне нямала:
Можа, пяць ці сем мяхоў.



* * *

Тыя кветкі, што я рвала, –
Яркія, стракатыя.
Тыя хлопцы, што кахала,
Трохі скупаватыя.








Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.







Алег ПАПОЎ х 2.

* * *

Мне даўно не васямнаццаць,
Праляцела маладосць,
Ды не сорамна прызнацца:
Інтарэс да хлопцаў ёсць.

* * *

Во мужчына! Во Даніла!
Вы не знойдзеце такіх:
Жонка двойню нарадзіла,
І суседка — чацвярых.

* * *

Ты дарэмна дзьмуешся,
Кожны дзень фарбуешся.
Для мяне ты і без фарб
Даражэйшая за скарб.

* * *

Не пайду за Васіля,
Ён бязвольны, як цяля.
П'е гарэліцу штодня,
Не мужчына — размазня!

* * *

Сталі моднымі мужчыны:
Джынсы ў дзірках — ну й прыкід!
Начасаў адзін чупрыну
Ды і ходзіць, як прывід.

* * *

Што патрэбна, ёсць у Франі:
Праца, муж і прыгажосць.
Ды не з той нагі устане —
І адкуль бярэцца злосць?

* * *

Хлопцы ўсе праходзяць міма,
Я за імі — наўздагон.
Як не даганю Максіма,
Не ўратуецца Лявон.

* * *

Цётка Клава вельмі жвава
Танчыць польку — верць ды круць.
Ну, красуня! Ну і пава!
Ажно завідкі бяруць.

* * *

А мой мілы — гарманіст,
Чым і ганарыцца.
Ён — іграць спецыяліст,
Я — спяваць майстрыца.

* * *

Кум да пары мне пасуе,
Любіць жарты, не злуе.
За любоў ён галасуе,
Я — таксама за яе!

* * *

Пайшла Гэля па лучыну —
Бервяно прынесла.
Шыла любаму штаніну —
І зашыла крэсла.

* * *

Мне з прыпеўкай па жыцці
Весялей, сябры, ісці.
У мяне прыпевачак,
Як у лесе елачак.

**Праспявала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

# МАЛПА, НЕ КУРЫ!



**Па гарызанталі:**

**1.** Індзейскі народ, прадстаўнікі якога з глыбокіх старажытных часоў разводзілі і ўжывалі тытунь. **4.** Дэкаратыўны куст з белымі пахучымі кветкамі. **7.** Народнае эпічнае апавяданне. **9.** Тытунь курыць і віно піць – ... губіць (*прыказка*). **11.** Смачны жабе арэх, ды ... зубоў не даў *(прыказка*). **13.** Хто курыць, таго да ... тураць, а хто нюхае, той сам да ... трухае (*прыказка*). **14.** Тое ж, што і зёлкі. **15.** Галоўны прыз у спаборніцтвах рысістых коней. **16.** «... курыць папяросу \\ І дымок пускае з носу. \\ Запішчалі камары: \\ Хопіць, ..., не куры!» (*з верша А. Старынчыка*). **17.** Наступства карозіі металу. **18.** Карчма ды тытунь – старыя ... (*прыказка*). **22.** Пустазелле, якое расце на палях, пры дарогах, у лясах і агародах. **23.** «... неўміручасці» *(камедыйная п'еса К. Крапівы*). **24.** Дажыліся ...: ні хлеба, ні табакі (*прыказка*).

**Па вертыкалі:**

**1.** Вялікі майстар сваёй справы. **2.** Скрыначка для табакі. **3.** Буйная рака ў Паўднёвай Азіі. **5.** «Курэнне – гэта не асабістая справа, а грамадскае ... (*выказванне невядомага аўтара*). **6.** Горад на Гродзеншчыне, раённы цэнтр. **8.** Тое, што і прыпечак. **9.** Вежа са званамі пры царкве. **10.** Тое, што і суніцы. **11.** «... не мая, \\ ... бра-тава. \\ Я пад гэту ... \\ Падпявала, плакала» (*прыпеўка*). **12.** Знешні слой скуры чалавека. **18.** Белы снег, ды не ..., добры зяць, ды не сын (*прыказка*). **19.** Вялікая прэснаводная драпежная рыба з вусамі і целам без лускі.

20. Карову б'юць за ..., а бабу за язык (*прыказка*).
21. Апошняя нота музычнай гамы.

**Адказы**

**Па гарызанталі:**
**1.** Ацтэкі. **4.** Язмін. **7.** Сказ. **9.** Здароўе. **11.** Бог. **13.** Пекла. **14.** Зелле. **15.** Дэрбі. **16.** Малпа. **17.** Ржа. **18.** Суседзі. **22.** Асот. **23.** Брама. **24.** Казакі.

**Па вертыкалі:**
**1.** Ас. **2.** Табакерка. **3.** Інд. **5.** Зло. **6.** Іўе. **8.** Загнетак. **9.** Званіца. **10.** Пазёмкі. **11.** Балалайка. **12.** Эпідэрма. **18.** Сыр. **19.** Сом. **20.** Зык. **21.** Сі.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Знайдзіце дарогу да начальника і потым выйдзіце з офіса.**

















## Не нагадвайце!

– Не нагадвайце мне пра цешчу!
– Чаму?
– Баюся, што прысніцца.

## Трапіў у нерат…

Зайшлі неяк у рэстаран падатковы інспектар, супрацоўнік дзяржаўтаінспекцыі і мытнік. Добра павячэралі, сабраліся ўжо выходзіць. А тут афіцыянт з рахункам падбягае ды працягвае яго падатковаму інспектару. Той глянуў на паперу і разнерваваўся:

– Гэта ж рабаўніцтва! Заўтра да вас падатковая інспекцыя з'явіцца!

Афіцыянт спужаўся і з рахункам да супрацоўніка ДАІ.

– Ды вы што? – пачаў абурацца той. – Я заўтра загадаю і мае падначаленыя вашага дырэктара на кожным пасту будуць спыняць!

Афіцыянт на ўсялякі выпадак даў рахунак мытніку. Той дастаў з кішэні акуляры, уважліва ўсё перачытаў і прамовіў:

– Так, бачу, дакументы ў вас у парадку. А дзе ж грошы?

## Каб выздаравеў дзед

Захварэў дзед Лявон. Адведаць яго зайшоў аднавясковец Мікола Карасёў. Выцягвае з торбы пляшку віна.

– Давай, сябра, вып'ем за тваё здароўе!

– Не магу, – адказвае дзед Лявон, – доктар забараніў катэгарычна.

– Ну, тады мне самому давядзецца выпіць усё за тваё здароўе! – узрадаваўся Мікола, адкаркоўваючы бутэльку.

## Няма магчымасці

Размаўляюць знаёмыя:

– Ніяк не магу паставіць сабе зубы. Мой стаматолаг часта бывае ў запоі...

– А ты ідзі да яго тады, калі ён не п'е!

– Тады ўжо я запіваю...

## Трэба думаць і пра малечу!

Маці набыла сабе новы смартфон.

– Сабе вось купіла! – з крыўдай гаворыць пяцігадовы Уладзік.

– А пра мяне чамусьці не падумала!

## Моль вінаватая

– Мама, што такое моль? – пытае малы Міша.

– Гэта такое насякомае, якое нішчыць тканіну, псуе рэчы...

– Цяпер зразумела, чаму мае шкарпэткі ў дзірках!

## У кожнага свой гонар

Сустрэліся дзве сяброўкі.

– Як жыццё?

– Ай, адны пакуты! Мой муж вельмі раўнівы...

– Цікава, да каго ён цябе раўнуе?

– Да майго начальніка.

– О, дык гэтым жа можна ганарыцца!

## Супакоілі

Калектыў, у якім адзін мужчына, а ўсе астатнія – жанчыны, рыхтуецца да карпаратыву.

– Ой, баюся, што я з вамі ўсімі не спраўлюся, – жартуе мужчына.

– Не хвалюйся! – супакойваюць яго жанчыны. – Мы паддадзімся!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 10 (1561), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.10.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,30. Тыраж 661 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.




Атрымаў...

«Сутнасць ідэі развіцця сярэдніх гарадоў з колькасцю жыхароў больш як 50—80 тыс. чалавек у тым, каб спыніць адток насельніцтва ў больш буйныя гарады і за мяжу. А для гэтага патрабуецца забяспечыць жыхароў такіх гарадоў работай, якой там цяпер не хапае».

«Задача дзяржаўнага кіраўніцтва — стварыць умовы для поспеху людзей».

«Патрэбны людзі, якія змогуць не толькі ўсё арганізаваць і стварыць рабочыя месцы. Яны павінны быць асабіста зацікаўленыя ў рэалізацыі праекта!»

*Па матэрыялах друку.*




... і супакоіўся.

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ х 2.

# Вожыкаўскі плакат

Алег ГУЦОЛ.

*Каб з нудой не сустракацца,*
*Не забудзься падпісацца!*

## «Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!



## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2018 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,70 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,74 рублёў,
індэкс 748442, цана 13,16 рублёў,
індэкс 01381, цана 10,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разліковa-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




